# КРЫНІЦА

№6(24) ЛІСТАПАД 2011 www.bchd.info


# Павал Севярынец: Глыбокі ўдых



**Дух ва ўсё пранікае,**
**І ў глыбіні Божыя.**
*І да Карынфянаў, 2:10*

Беларусам, глыбокім людзям, патрэбны вельмі глыбокі ўдых, каб наважыцца на агульную справу або асабісты рашучы ўчынак.

Да каранёў лёгкіх, стомленых страхам; да самага сэрца, пакліканага ці вечна дрыжэць, ці вольна біцца; да дна людской абыякавасці і няўдзячнасці — удыхнуць. Каб натхніцца, каб аб'ём кіслароду расправіў грудзі і плечы. Каб дапяць да ўдыху Дашкевіча ў Глыбокім.

Нават калі гэта балюча — удыхнуць.

Моц салідарнасці зыходзіць з твайго асабістага рашэння: кідаць усе справы, калі патрабуецца дапамога таму, з кім ты аднаго духу. Адзін за ўсіх — і ўсе за аднаго.

Ужо сцямнела, і раптам выклікаюць у дзяжурку. Там — два здаравезныя незнаёмыя тыпы ў чорных скуранках. «Мы да Вас», — кажуць яны. О, думаю, няйнакш угаворваць наконт «прашэння аб памілаванні». «Прайдзёмце». Ну-ну, прайдзёмце. Ідзём у альтанку, што насупраць дзяжуркі пад камерамі. Сядаем. Яны глядзяць на мяне. Вывучаюць. Я, стаіўшы дыханне, на іх. Нарэшце: «Паша, мы прадпрымальнікі з Пінска. Як усё дастала!.. Прачыталі, што цябе сюды запёрлі. Скажы, што рабіць. Мы гатовыя».

Маўклівыя акцыі знікавелі. Народны сход малалюдны. Таемна ўзаконеныя расстрэльныя папраўкі. Што цяпер? «Цяпер ні капейкі рэжыму!» — перакананана кажа адна мая госця-пенсіянерка. «Ячмень тысячу дзвесце... Як скаціну карміць? Як жыць цяпер, а?» На склад тэлефануе кабета, плача, захліпаецца.

Але народнае абурэнне само па сабе ні ўва што не выліваецца, проста паціху гніе ўнутры. Сістэма вышчамляе здольных да дзеяння паасобку — вылічвае, атачае і разам націскае на ўсе рычагі, каб чалавек адчаяўся.

Старэйшае пакаленне пружанскіх дэмакратаў не ведае, што за моладзь узняла на шматпавярхоўцы бел-чырвона-белы сцяг. І вернікі цэркваў не знаёмыя з мясцовымі незалежнымі журналістамі, і пратэстоўцы з рабочых не маюць уяўлення, што недзе ў Брэсце ёсць нейкія праваабаронцы.

Блогеры ў сеціве, інтэлігенты на кухнях, прадпрымальнікі на кірмашах — кожны спраўна кіпіць у сваім ціхім віры. Мы такія засяроджаныя і такія незадаволеныя, што не заўважаем нават уласнай большасці.

Мы дыхаем часта і дробненька, сумятліва, аглядваючыся. Мы ненавідзім, баімся і спяшаемся з прыдыханнем. Мы адвучыліся глыбока дыхаць.

Беларусам патрэбны глыбокі ўздых. Каб агледзецца, адчуць: тых, хто з намі, болей, чым тых, хто з імі, і напоўніць свае лёгкія, галовы, сваю кроў верай і салідарнасцю.

Хто дае такі дух? Той жа, Хто дае жыццё целу, любоў сэрцам і адвагу баязлівым – Госпад Бог. Дыхайце глыбей – і з кожным удыхам, з кожным учынкам упэўненасць будзе расці.

Ператрус у кватэры сеткавага рэвалюцыянера ў Мінску — усе вернікі, прадпрымальнікі, рабочыя і, вядома, праваабаронцы збіраюцца там. Незалежным журналістам у Маладзечне далі суткі — сто чалавек нясуць перадачы, шлюць тэлеграмы, дапамагаюць сям'і. Падтрымка ператвараецца ў акцыю ў любым месцы і ў любы час, у кожным выпадку — каб перaслед за «масавае бяздзеянне» страціў сэнс. Салідарнасць як адказ на рэпрэсіі хутка нараджае салідарнасць як ініцыятыву, рух, які немагчыма пракантраляваць, рух, залежны ўжо не ад дробнапалітычнай сумятні, а (ні больш, ні менш) ад волі народа.

Адзін за ўсіх — паводле такога правіла 2000 гадоў таму перамог Ісус. Нам засталося толькі падхапіць: і ўсе за аднаго!

Пасля правалаў і расчараванняў 2011 нам патрэбны Глыбокі Удых. Еднасць у цярпенні, трыванні, узаемадапамозе, супольнай малітве — гэта глыбіні Божыя, якіх жахаюцца рэжымы.

Удыхнуць паху апалага лісця, горычы вогнішчаў, свежага першага снегу. Удыхнуць неба – на ўсю Беларусь. Бо, дыхаючы верай, любоўю і салідарнасцю, ты ўдыхаеш Бога.

# У Віцебску адбыўся ўстаноўчы сход БХД





**У Віцебску 24 верасня адбыўся Устаноўчы сход мясцовага аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Як паведаміла каардынатарка БХД па Віцебскай вобласці Таццяна Севярынец, людзей было шмат, неабходную колькасць чальцоў для рэгістрацыі партыі Віцебск сабраў.**

Удзельнікі сходу заслухалі справаздачу аб дзейнасці аргкамітэту, абмеркавалі сваю працу і прынялі план дзеянняў на будучыню.

Нагадаем, аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» распачаў падрыхтоўку да правядзення чацвёртага ўстаноўчага з’езду партыі, які плануецца правесці 17 снежня. Рашэнне аб гэтым 17 верасня ў Менску прыняла Нацыянальная Рада БХД.

# У Бабруйску адбыўся ўстаноўчы сход БХД

**У Бабруйску 23 кастрычніка адбыўся Устаноўчы сход мясцовага аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя», у якім узялі ўдзел 26 чальцоў БХД.**

Удзельнікі сходу прынялі за аснову статут і праграму Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, а таксама вылучылі двух дэлегатаў на нацыянальны ўстаноўчы з’езд Партыі, які адбудзецца 17 снежня. Пра гэта паведаміла абласная каардынатарка БХД Таісія Кабанчук.



# У Гомелі прайшоў сход гарадской арганізацыі БХД

**У Гомелі 22 кастрычніка на ўлонні прыроды адбыўся сход гарадской арганізацыі аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» з удзелам актыву (К.Жукоўскі, А.Цянюта, Я.Якавенка і г.д.), чальцоў і жадаючых уступіць у БХД у агульнай колькасці 23 чалавекі.**

«Падчас мерапрыемства ўдзельнікі сходу запоўнілі анкеты сяброў БХД, абралі дэлегатаў на з’езд. У нязмушанай сяброўскай абстаноўцы абмеркавалі пытанні падрыхтоўкі да з’езду партыі і ўдзелу ў агульнанацыянальных кампаніях апазіцыі», – распавёў абласны каардынатар аргкамітэту БХД Юры Клімовіч.

# У Полацку пад наглядам міліцыянта і правакатара адбыўся сход заснавальнікаў БХД

**У Полацку 23 кастрычніка адбыўся сход заснавальнікаў партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» з Полацка і Наваполацка. Удзел у сходзе брала віцебская абласная каардынатарка аргкамітэту БХД Таццяна Севярынец.**



Паводле яе словаў, удзельнікі сходу ў нефармальнай абстаноўцы абралі дэлегатаў на Устаноўчы з'езд партыі 17 снежня, зацвердзілі ўсе неабходныя дакументы. Пасля сходу сябры БХД абмеркавалі бягучую сітуацыю і планы дзейнасці.

Як распавяла Таццяна Севярынец, сустрэча праходзіла пад пільным кантролем супрацоўніка міліцыі. Больш за тое, да яе ўдзельнікаў напрацягу гадзіны чапляўся п'яны правакатар, які спрабаваў учыніць бойку, але актывісты БХД на правакацыі не паддаліся.

# Хрысціянскія дэмакраты абмеркавалі сваю дзейнасць на сходзе ў Глыбокім

**Сябры аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» 22 кастрычніка правялі сход у Глыбокім. Яны паставілі подпісы ў спісе заснавальнікаў, які будзе пададзены ў Міністэрства юстыцыі пасля Устаноўчага з'езду, запланаванага на 17 снежня.**

На сход прыехала Таццяна Севярынец, абласны каардынатар БХД, маці зняволенага лідара партыі Паўла Севярынца. Таццяна Яўгенаўна заклікала глыбоцкіх актывістаў больш працаваць з насельніцтвам, каб атрымаць давер людзей. На яе думку, падчас крызісу сябры БХД павінны заняцца дабрачыннай дзейнасцю. Таццяна Яўгенаўна прапанавала стварыць нефармальны фонд узаемадапамогі, каб дапамагаць адзін аднаму.

«Мы не павінны працаваць толькі для сябе, мы павінны працаваць для людзей», – заявіла Таццяна Севярынец.



Акрамя таго, Таццяна Севярынец заклікала ўзнавіць дзейнасць Рады народных дэпутатаў – арганізацыі, што складаецца з былых кандыдатаў мясцовых выбараў. Сябра Рады Зміцер Лупач распавёў пра тое, як ён дамагаўся ад уладаў усталёўкі ліхтароў у вёсцы Заварaты і падсыпкі вуліц у Глыбокім.

Праўда, глыбоцкія сябры БХД не выказалі вялікага аптымізму наконт пашырэння грамадскай дзейнасці. Мясцовая ўлада будзе ставіць палкі ў колы, лічаць яны.

Таццяна Севярынец станоўча выказалася пра дзейнасць суполкі БХД у Мёрах. Узімку мёрскія хрысціянскія дэмакраты сабралі грошы на падтрымку зняволеных лідараў апазіцыі. У кастрычніку яны падтрымлівалі журналіста Кастуся Шыталя падчас арышту і суду ў Мёрах.

Сход скончыўся сяброўскай размовай за гарбатай. Пасля гэтага двое актывістаў разам з Таццянай Севярынец наведалі падмуркі былой Беразвецкай царквы, дзе разам памаліліся за лідара «Маладога Фронту» Змітра Дашкевіча, зняволенага ў турме ў Беразвеччы.

Да глыбоцкай суполкі БХД належаць больш за два дзясяткі чалавек, сярод іх – журналісты Зміцер Лупач, Яўген Самсонаў, Кастусь Шыталь, паэтка Марыя Баравік.

# У Воршы адбыўся Устаноўчы сход

**У Воршы адбыўся Устаноўчы сход мясцовага аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».**

«Удзельнікі сходу прынялі за аснову статут і праграму Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, а таксама вылучылі дэлегатаў на нацыянальны Устаноўчы сход Партыі, які адбудзецца 17 снежня», – паведаміў мясцовы каардынатар БХД Яўген Анішчанка.




# У Горадні прайшла сустрэча новых сябраў БХД



**У Горадні адбылася нефармальная сустрэча сяброў і новых прыхільнікаў БХД, удзел у якой прынялі каля 30 чалавек з розных litарадоў Гарадзенскай вобласці.**

Удзельнікам сходу распавялі пра хрысціянскую дэмакратыю і пра планы далейшай дзейнасці абласной арганізацыі. Асаблівая ўвага была нададзена кампаніі «Рада Народных Дэпутатаў» і падрыхтоўцы новых і сталых сяброў БХД да актыўнага ўдзелу ў ёй.

Затым прайшоў Устаноўчы сход мясцовага аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя». Удзельнікі сходу прынялі за аснову статут і праграму Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, таксама вылучылі дэлегатаў на нацыянальны Устаноўчы сход Партыі 17 снежня. Пра гэта паведаміў рэгіянальны каардынатар БХД Мікола Баўсюк.

# Магілёўскія актывісты БХД выправіліся ў сумесны паход

**Магілёўскія актывісты аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» пры ўдзеле абласной каардынаткі Таісіі Кабанчук зладзілі сумесны паход.**

Сябры БХД выправіліся ў паход да гаючай крыніцы ў вёсцы Палыкавічы Магілёўскага раёну. Памаліўшыся ў мясцовай капліцы за Беларусь і за палітвязняў, актывісты скіраваліся ў лес, дзе зладзілі сумесны пікнік.

Падчас адпачынку актывісты паразважалі пра гісторыю Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, бягучую сітуацыю ў Беларусі і яе магчымае развіццё, рэгістрацыю БХД і звязаныя з ёй планы мерапрыемстваў. «Лепей, бліжэй пазнаёміліся», – адзначыла Тацяна Шамбалава.



# Дэпутат Жанна Шчарбініна: чыноўнікі не хочуць ці не могуць вырашаць праблемы



**Жанна Шчарбініна з Горацкага раёна – адна з нямногіх дэмакратычных актывістак, хто здолела стаць дэпутатам у мясцовай кампаніі 2010 г. Спадарыня Жана распавядае пра тое, з якімі праблемамі яна сутыкаецца на сваёй пасадзе, што б хацела змяніць у дзейнасці БХД.**

Прэсавая служба Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі вырашыла задаць некалькі пытанняў сваёй актывістцы з Горацкага раёна, дэпутатцы аўсянкаўскага сельсавету Жанне Шчарбінінай.

***– Жанна, распавядзіце, калі ласка, з якімі праблемамі вы сутыкаецеся ў якасці дэпутата?***

– Праблемаў вельмі шмат, у першую чаргу мясцовых. Гэтак, больш за год цягнецца будаўніцтва свінакомплексу ля возера, што знаходзіцца ў арэндзе СПК «Аўсянка». З-за гэтага людзей не пускаюць лавіць рыбу. Таксама з вёскі да Горак не ходзіць ніякі транспарт, і людзі вымушаныя дабірацца на працу ў райцэнтр на папутках. Улады кажуць, што грошай на пакупку аўтобуса няма. Апроч гэтага, у вёсцы, дзе жыве каля 900 чалавек, вельмі дрэнная вада, а будаўніцтва станцыі яе абезжалезвання адклалі на 2013 год. Мы дамагаемся, каб будаўніцтва распачалося раней. Да таго ж у нас у вёсцы няма грамадскай лазні. Таму праблемаў вельмі шмат. Мы падымаем іх, але чыноўнікі ці не хочуць, ці не могуць іх вырашаць, а дзяржава не дае грошай. Мясцовае кіраўніцтва ставіцца да мяне негатыўна, але яму ўсё ж такі даводзіцца мяне цярпець.

Да таго ж я як прыёмная маці ўваходжу ў асацыяцыю «Надзея дзецям». Выплатаў, якія даюць на дзіцёнка, ні нашто не хапае. Тая сума, да якой іх павысілі, нічога істотна не змяніла. З гэтым пытаннем мы звярталіся ў мінадукацыі.

***– Як вы ацэньваеце дзейнасць БХД?***

– Партыйныя ідэі я падтрымліваю. Я згодная з тым, што ў партыі павінна быць шмат розных людзей. Але я выступаю за тое, каб у партыі пераважалі менавіта сапраўдныя шчырыя хрысціяне, бо ёсць шмат людзей, якія толькі называюць сябе хрысціянамі.

***– Ці ёсць у вас якія-небудзь прапановы па ўдасканаленні дзейнасці партыі?***

– БХД ладзіць шмат розных семінараў. Вялікі дзякуй за гэта, але хацелася б, каб яны прыносілі больш карысці, каб людзі лепш разумелі, што і як трэба рабіць у партыі. Спадзяюся, тады з Божай дапамогай мы здолеем пераадолець дэградацыю (алкагалізацыю насельніцтва, разводы, наркаманію), што нарастае ў грамадстве, умацаваць свае шэрагі і прыйсці да ўлады.

Таксама хацелася, каб у партыі дзейнічала юрыдычная дапамога. Напрыклад, я ў сваёй дзейнасці на шматлікія пытанні не знаходжу адказаў (куды і як звяртацца, як запаўняць заявы, звароты) і вымушана звяртацца да юрыстаў.

# Затрыманая машына Вадзіма Кабанчука з улёткамі да Народнага сходу

**У пятніцу 7 кастрычніка напярэдадні правядзення па ўсёй краіне народных сходаў менская міліцыя затрымала сябра БХД і актыўнага ўдзельніка аргкамітэту Народнага сходу Вадзіма Кабанчука ды сканфіскавала друкаваную прадукцыю, якую меркавалася раздаваць удзельнікам народнага сходу ў Менску.**

Як распавёў сам Вадзім Кабанчук, міліцыя затрымала ягоную машыну і адагнала ў Ленінскі РУУС Менска.

«Доўга вырашалі, што рабіць са мной. Міліцыянты забралі 40 тысяч улётак з праектамі рэзалюцыі народнага сходу, якія меркавалася раздаваць на сходзе», – распавёў Вадзім.



# Дзяніса Садоўскага і Аляксея Змушко выклікаюць у пракуратуру



**Напярэдадні правядзення 8 кастрычніка ў многіх гарадах Беларусі Народнага сходу двух актывістаў аргкамітэту БХД выклікалі ў пракуратуру.**

Так, увечары 6 кастрычніка ўчастковы прыходзіў дадому да адказнага сакратара аргкамітэту БХД Дзяніса Садоўскага. Ён спрабаваў даведацца ад бацькоў палітыка аб месцазнаходжанні іх сына. Участковы паведаміў, што павінен перадаць Дзянісу Садоўскаму позву ў пракуратуру, але не будзе рабіць гэтага, паколькі яго няма.

Так і не ўручыўшы позву і не паведаміўшы, якую пракуратуру і калі Дзянісу Садоўскаму, трэба прыйсці, ён сышоў. «Хутчэй за ўсё мяне хацелі папярэдзіць аб няўдзеле ў акцыі 8 кастрычніка», – адзначыў адказны сакратар БХД.

Таксама ў пракуратуру выклікалі і намесніка каардынатара аргкамітэту БХД па Гомельскай вобласці Аляксея Змушко з Рэчыцы. «Патэлефанавалі і сказалі, каб я абавязкова з’явіўся. Хочуць паразмаўляць наконт Народных сходаў», – адзначыў актывіст.

# У адсутнасць арганізатараў Народны Сход у Воршы правёў сябар БХД

**У Воршы арганізатары Народнага сходу Мінай Карніенка і Мікалай Дзямідаў былі затрыманыя яшчэ да пачатку Народнага сходу. Іх прывезлі ў гарадскі аддзел міліцыі, каб зрабіць асабісты дагляд і «ўзяць тлумачэнні наконт зброі». Пра якую зброю вядзецца — затрыманыя нават не ведаюць.**

Разам з тым чалавек, якога прызначылі адказным за правядзенне Народнага сходу на выпадак арышту арганізатараў, з невядомых прычынаў на ім так і не з'явіўся. У выніку адказнасць за правядзенне акцыі ўзяў на сябе мясцовы каардынатар аргкамітэту БХД Яўген Анішчанка.

Актывіст патлумачыў людзям сітуацыю і правёў Народны сход. З яго словаў, у акцыі ўдзельнічала 60-70 чалавек.

# Кастуся Шыталя аштрафавалі «за нецэнзурную лаянку»



**Кастусь Шыталь быў затрыманы 7 кастрычніка па дарозе ў Дзісну, дзе збіраўся зрабіць рэпартаж аб правядзенні Народнага Сходу, які прайшоў 8 кастрычніка. «Зразумела, што яго нейтралізуюць, каб было як мага менш звестак пра Народны Сход», – адзначыла Тацяна Севярынец.**

Актывіста БХД затрымалі нібыта па падазрэнні ў крадзяжы з нейкай машыны, а быў абвінавачаны ў лаянцы. Разгляд справы актывіста БХД Кастуся Шыталя быў перанесены на панядзелак, 17 кастрычніка. Самога актывіста да гэта часу адпусцілі.

Сведкамі на працэсе былі кіроўца Нішчанка, у аўтамабілі якога ён ехаў аўтаспынам, ды два супрацоўнікі мёрскай ДАІ: Маханькоў і Валеўка – па словах мясцовых жыхароў – добрыя знаёмыя кіроўцы.

Актывіст БХД з Глыбокага Кастусь Шыталь аштрафаваны на 3 базавыя велічыні (Br105 000). Такое рашэнне вынес суд Мёрскага раёна 17 кастрычніка 2011 года.

Сведкамі супраць сябра БХД выступілі чатыры супрацоўнікі міліцыі, а таксама адзін з мясцовых жыхароў, якія пацвердзілі, што Канстанцін нецэнзурна лаяўся 7 кастрычніка, напярэдадні правядзення Народнага сходу. Паводле інфармацыі самога Шыталя, загад на яго затрыманне аддаваў асабіста намеснік начальніка УУС Віцебскага аблвыканкама Уладзімір Папко.

З прысудам Кастусь не згодны і збіраецца яго абскардзіць.

# Тацяну Севярынец хочуць судзіць за Народны Сход



**Віцебскую абласную каардынатарку аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Тацяну Севярынец гарадскія ўлады збіраюцца судзіць за арганізацыю Народнага Сходу ў Віцебску.**

Пра гэта ёй паведамілі 25 кастрычніка старшы лейтэнант Казючыц Павал Мікалаевіч і маёр Паўлаў, якія паабяцалі прадставіць позву ў суд. У дачыненні да Тацяны Севярынец склалі пратакол за «арганізацыю несанкцыянаванага ўладамі масавага мерапрыемства».

«Пратакол я не падпісвала, ніякіх тлумачэнняў не давала, бо я ім казала адно, а яны мне другое. Я ім сказала перадаць прапанову падпалкоўніку Каліноўскаму, намесніку начальніка міліцыі Кастрычніцкага раёну, правесці для міліцыянтаў замест палітінфармацыі некалькі заняткаў па мове, хаця б па рускай, бо ўжо зусім непісьменныя. Маёр Паўлаў, якому я некалі выпраўляла памылкі ў пратаколе, паабяцаў перадаць», – адзначыла Тацяна Севярынец.

# Падчас Народнага схода ў Слоніме затрымалі Алеся Масюка і Івана Бедку

**У Слоніме падчас правядзення Народнага сходу былі затрыманыя актывісты аргкамітэту БХД Алесь Масюк і Іван Бедка. Сам Народны сход міліцыянты правадзіць забаранілі.**

Як паведаміў Іван Бедка, на яго склалі пратакол за правядзенне несакцыянаванага мерапрыемства, пасля чаго адпусцілі. Разам з тым у міліцыі працягвалі заставацца Алесь Масюк і яшчэ некалькі чалавек.

26 кастрычніка слонімскі раённы суд вынес прысуд кіраўніку Слонімскай гарадской арганізацыі БХД. Івана Бедку аштрафавалі на 1,4 мільёна рублёў за Народны сход.

Іван Бедка кажа, што суд цалкам ігнараваў ягоныя довады і паказанні ягоных сведак пра тое, што правядзенне Народнага сходу не падпадае пад закон «Аб масавых мерапрыемствах» і для такой акцыі не патрабуецца дазвол уладаў.



*Рэгіянальныя лідары: Яўген Анішчанка (Ворша)*

# Аршанскія актывісты БХД распаўсюдзілі ўлёткі з партрэтамі палітвязняў



**Актывісты і сябры аргкамітэту БХД у Воршы распаўсюдзілі па горадзе некалькі дзясяткаў улётак з партрэтамі палітвязняў.**

Разам з тым у царкве Святога Леаніда прайшла малітва за вызваленне палітвязняў. Яе замовілі мясцовыя сябры аргкамітэта Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі.

«На жаль, шматлікія жыхары горада НЕ ВЕДАЮЦЬ, што да гэтага часу у турмах знаходзяцца палітвязні», – адзначыў мясцовы каардынтар аргкамітэту БХД Яўген Анішчанка.

# Сябры БХД заклікаюць Міністэрства культуры ўратаваць базыльянскі кляштар у Воршы

**Ліст, пад якім падпісалася 56 чалавек, у Міністэрства культуры адправілі аршанскія прыхільнікі стварэння партыі БХД. Яны патрабуюць, каб міністэрства паспрыяла захаванню будынка кляштара базыльянаў — помніка архітэктуры XVIII стагоддзя, які цяпер занядбаны.**

«Мы патрабуем, каб выконвалася заканадаўства аб ахове культурнагістарычнай спадчыны. Цяпер будынак кляштара базыльянаў належыць Віцебскай праваслаўнай епархіі. У 2003 годзе такім чынам гарадскія ўлады „спіхнулі“ з сябе адказнасць за захаванне архітэктурнай каштоўнасці. Як высветлілася, у



праваслаўнай царквы няма сродкаў на рэканструкцыю будынка — там тры гады беспаспяхова шукалі грошы на тое, каб зрабіць дах. І калі справа зайшла ў тупік, то мы прапануем вярнуць будынак на баланс горада і пашукаць сродкі на кансервацыю ды рэстаўрацыю ў дзяржаўным бюджэце», — кажа аршанскі актывіст аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Яўген Анішчанка.

Гэта ўжо не першы зварот жыхароў Воршы ў розныя інстанцыі з нагоды занядбання помніка архітэктуры. Лісты пісалі і ў Міністэрства культуры, і да гарадскіх уладаў, і ў пракуратуру. Апошняя інстанцыя спрабавала змусіць гаспадароў будынка заняцца яго кансервацыяй, але нічога з месца не зрушылася. Таму актывісты прапануюць забраць помнік назад, пад апеку горада, або перадаць яго іншым гаспадарам — да прыкладу, грэка-каталіцкай царкве: калісьці яна яго і будавала як грэка-каталіцкі манастыр ордэна базыльянаў.

# Актывісты БХД у Воршы ўпарадкавалі пахаваньне ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў



**У Воршы 29 кастрычніка ўшанаваць памяць ахвяраў бальшавіцкага і сталінскага тэрору да крыжа ва ўрочышчы Кабыляцкая Гара, дзе праводзіліся расстрэлы і пахаваныя каля 5 тысяч чалавек, прыйшлі прадстаўнікі БХД. Яны прыбралі тэрыторыю, ўусклалі вянок і памаліліся за ўсіх забітых.**

«Мы прыбралі смецце вакол мэмарыяльнага знака, усталяванага тут у памяць пра растраляных людзей. Пафарбавалі крыжы, якія тут паставілі сваякі расстраляных ахвяраў сталінізму», — распавёў сябра аргкамітэту па стварэнні партыі БХД Яўген Анішчанка.

Урочышча Кабыляцкая Гара знаходзіцца недалёка ад Воршы, каля пасёлка Андрэеўшчына. У гэтых мясцінах пад Воршай у 1930-50-я гады праводзіліся расстрэлы мірнага насельніцтва — ахвяраў таталітарызму сталінскіх часоў.

Паводле некаторых дадзеных, тут было 7 ці 8 масавых пахаванняў, але дакладную колькасьць ахвяраў сталінізму, якія знайшлі тут апошні спачын, ня ведае ніхто.

Парэшткі забітых людзей былі знойдзеныя ў Кабыляцкай Гары яшчэ ў 70-я гады мінулага стагоддзя, калі будавалі чыгунку да станцыі Ворша-Паўночная. Але толькі пасля таго, як Беларусь даведалася пра менскія Курапаты, і ў Воршы была створаная адмысловая камісія па вывучэнні пахаванняў.

На загад Аршанскага гарвыканкаму ў 1992-м годзе на Кабыляцкай Гары быў усталяваны вялікі помнік-камень.

Добраўпарадкаваньнем мэмарыялу ўсе гэтыя гаты займаюцца толькі мясцовыя актывісты.

Аршанскія актывісты зьбіраюцца ў гэтых мясьцінах штогод — або на Дзяды, або напярэдадні.

# Віктар Чарняк: шукаць праўду пра Бога

**Прапануем увазе чытачоў «Крыніцы» гутарку з Віктарам Чарняком, які нядаўна абараніў доктарскую працу па маральна-палітычнай філасофіі на факультэце сацыяльных навук Універсітэта імя святога Тамаша Аквінскага ў Рыме.**

– Распавядзіце, калі ласка, некалькі словаў пра сябе.

– Я беларус. Каталік. Нарадзіўся ў вёсцы Танявічы. Скончыў фізіка-матэматычны факультэт універсітэту ў Гродне. Працаваў год настаўнікам. Затым была служба ў войску. Пасля гэтага ў мяне выдалася цудоўная магчымасць вучыцца ў Рыме. Я скончыў Папскі ўніверсітэт святога Тамаша Аквінскага, таксама вядомы як Angelicum. Дактарат абараніў на факультэце сацыяльных навук па маральна-палітычнай філасофіі. Называўся ён насутпным чынам: «Дэбаты аб тэорыі справядлівасці як бессаромнасці ў Джона Ролза і каталіцкім сацыяльным навучанні».

– Ці не маглі б вы распавесці, чаму была прысвечаная ваша праца?

– У сваёй працы я паставіў за мэту даследаваць ліберальныя тэорыі справядлівасці, якія сёння дамінуюць у заходнім грамадстве – Заходняй Еўропе і Паўночнай Амерыцы. Перадусім гэта ліберальна-эгалітарная тэорыя Джона Ролза. Я вырашыў разгледзець яе ў аспекце дэбатаў, якія ўзнікаюць паміж рознымі філасофскімі плынямі наконт сацыяльнай справядлівасці, а таксама погляд на гэта заходняга хрысціянства, Каталіцкай царквы. Але не менавіта самой іерархіі, але і найбольш выбітных філосафаў-хрысціян, такіх як, скажам, Жак Марытэн, Алісдэр МакІнтайр і іншыя.

Я хацеў паказаць недастатковасць ліберальнай тэорыі, якая а грунтуецца не на канкрэтна выражаных прынцыпах маралі, а на такіх, што ты не перашкаджай мне, а я не буду перашкаджаць табе, тыды мы дамовімся і будзем неяк суіснаваць. Я звяртаў увагу на неабходнасць таго, каб грамадства грунтавалася на натуральным законе, на хрысціянскай духоўнасці.

У першым раздзеле я паказаў, што адным з найбольш пагубных элементаў з'яўляецца наданне надзвычайнай адказнасці чалавечаму розуму вырашаць усе праблемы рацыянальна, знаходзіць на іх правільныя адказы. Тым самым чалавек перабольшыў сваю кампетэнцыю, таму што ён не з'яўляецца цэнтрам сусвету, а ёсць толькі створанай істотай, якая павінна навучыцца існаваць у гармоніі, шукаць праўду аб Богу, аб тым, як жыць у гэтым жыцці.

Я разгледзеў развіццё заходняй цывілізацыі з філасофскага пункту гледжання: як розныя філасофскія дактрыны ўплывалі на яе. Я зрабіў аналіз дэбатаў аб сацыяльнай справядлівасці, якія ўзнікаюць паміж рознымі філасофскімі плынямі: лібералізмам, да якога належыць галоўны аўтар, на якога я спасылаюся, – Джон Ролз, камунітарызмам, які ставіць у цэнтр супольнасць, і фемінізмам.

У трэцім раздзеле я зрабіў аналіз асноўных практык Джона Ролза – «Тэорыі справядлівасці» – і потым таксама разгледзеў тыя змены, якія аўтар унёс у сваю тэорыю, пасля яе крытыкі. Гэтая тэорыя з'яўляецца вельмі штучнай і абстрактнай, да таго ж яна не грунтуецца на фундаментальных маральных прынцыпах, якія б забяспечылі стабільнасць грамадства і эфектыўнасць яго далейшага самаразвіцця.

У чацвёртым раздзеле я разгледзеў філасофію Тамаша Аквінскага, яго антрапалогію, эпістэмалогію. Я звярнуў увагу на тое, як ён бачыць прызначэнне чалавека ў ягоным жыцці на зямлі, як чалавек набывае веды пра Бога, аб свеце, які яго абкружае, а таксама яго погляды на маральна-палітычныя прынцыпы – прынцыпы маралі і палітычнай арганізацыі грамадства.

А ў пятым раздзеле я паказаў развіццё хрысціянскай філасофіі, таго як хрысціянскія філосафы і найбольш вядомыя іерархі Каталіцкай царквы адказвалі на тыя праблемы свайго часу, якія паўставалі перад імі, дзеля таго, каб паказаць свае клопаты аб простых людзях, паказаць тое, чым павінна быць Царква ў жыцці людзей, г.зн. турбавацца аб іх і асабліва пра найбольш бедных і патрабуючых, даваць ім магчымасць спадзявацца пасля смерці на Неба, а таксама ствараць тэарытчную базу для далейшага канкрэтнага дзеяння.

У канцы я прапанаваў альтэрнатыўную схему той, якую прапануюць ліберальныя філосафы, што ставяць у першую чаргу прынцып свабоды, паводле якога, кожнаму павінна быць дадзена права на найбольшую колькасць свабод, якімі ён бы мог карыстацца. У гэтым пытанні неабходна правільна разумець прыроду чалавека і паважаць яго годнасць, і толькі тады гэтыя свабоды з'яўляюцца чымсьці сапраўдным. Прынцып вызначэння дабра павінен ісці першым, і потым ужо павінна выкарыстоўвацца свабода.

На думку ліберальных філосафаў, любое несправядлівае грамадства будзе апраўдана тады, калі яно забяспечыць найбольшую свабоду ад найслабейшых і найбяднейшых. Але яны не тлумачаць, чаму яны ставяць гэты прынцып другім. Але, калі далучыць хрысціянскую любоў, тады прынцып салідарнасці, клопатаў аб бедных не з'яўляецца выключна маральным, але і рацыянальным, бо патрабе дзеяннеяў, якія б забяспечылі годнае жыццё для ўсіх людзей.

Такім чынам, я падвёў, што на сённяшні момант у заходнім грамадстве нельга забываць той хрысціянскі падмурак, на якім яно грунтуецца, бо ён з'яўляецца пазітыўным элементам для яго развіцця, для развіцця сённяшняй палітычнай сістэмы канстытуцыйнай дэмакратыі. Абарона правоў чалавека не ўзнікла з часоў Французскай рэвалюцыі. Аб гэтым казалі задоўга да гэтага. Правы чалавека выходзяць з натуральнага закону. Патрабаванне ж паважаць годнасць чалавека, роўнасць і братэрства хоць і былі сфармуляваня Французскай рэвалюцыяй палітычным чынам, але былі распрацаваныя значна раней.

– Наколькі вашая праца закранае сітуацыю ў сённяшняй Беларусі?

– Беларускае грамадства таксама з'яўляецца часткай еўрапейскага грамадства, хоць розныя ўплывы і ход гісторыі абумовілі адрознае развіццё. Але, калі мы хочам ісці ў нагу з цывілізаваным грамадствам, выбраць лепшае з таго, што прапануе заходняе грамадства, мы павінны ўлічваць той досвед, які паказаў сваю годнасць у развіцці заходняй цывлізацыі, і зрабіць урокі з ужо зробленых памылак.

Галоўным на што мы павінны звяртаць увагу – гэта ня тое, што нам не падабаецца, а тое, як мы можам далей развівацца і весці дыялог. Неабходна, каб людзі самі бачылі і маглі выбраць, да чаго б яны хацелі імкнуцца. А гэта вельмі марудны працэс, які патрабуе цярплівай і доўгай працы. Менавіта таму неабходны палітычны ўплыў беларускіх хрысціянаў на палітычнае, сацыяльнае, культурнае развіццё грамадства.

І тады людзі змогуць бачыць, што ўяўляе сабой паняцце еўрапейскіх свабод і тое, на чым яно грунтуецца. Той жа самы Еўрапейскі саюз не з'яўляецца ў поўнай меры эканамічным саюзам, а грунтуецца на пэўных маральных якасцях і прынцыпах, якія развіваліся і лучылі розныя нацыі паміж сабой. І толькі пасля гэтага ўзнік эканамічны саюз, які іх аб'яднаў.

# БХД заклікае падтрымаць лістамі Яўгена Васьковіча



**Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя і малітоўная група ля Чырвонага касцёла «Нельга забыць» заклікаюць дасылаць лісты падтрымкі палітзняволенаму сябру БХД Яўгену Васьковічу, якога нядаўна перавялі ў крытую турму Магілёва.**

У прывастнасці, малітоўная група заклікае дасылаць палітвязню лісты са словамі з Пісання. «Неабходна падтрымаць, бо гэта крытая турма. Гэта цяжка і надоўга», – адзначыў сустаршыня БХД Павал Севярынец.

Лісты падтрымкі неабходна пісаць на адрсас: турма № 4, 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

У ноч з 16 на 17 кастрычніка 2010 году ў Бабруйску зрабілі напад на будынак КДБ. Яўгена Васьковіча затрымалі 17 студзеня ў Магілёве на наступны дзень пасля яго ўдзелу ў акцыі салідарнасці з беларускімі палітвязнямі. Пракурор даводзіла, што дзеянні падсудных маглі прывесці да знішчэньня ўсяго будынка КДБ. Страты маглі скласці блізу двух мільярдаў рублёў. Рэальныя ж страты ад нападу склалі 253 тысячы рублёў, і гэтыя грошы ўжо выплацілі. Яўген Васьковіч заявіў, што не шкадуе аб учыненым. Ён назваў сябе літвінам і дадаў, што яго святы абавязак — бараніць нацыянальныя беларускія каштоўнасці. «За іх я ўмерці гатовы, бо жыццё кароткае, а радзіма вечная», казаў хлопец. Яго не спалохаюць цяжкасці, і ён з годнасцю іх пройдзе. Скончыў свой кароткі выступ Васьковіч воклічам: «Жыве Беларусь!». Яўгена Васьковіча суд прысудзіў да сямі год зняволення калоніі ўзмоцненага рэжыму.

Хоць хрысьціянскія дэмакраты не падтрымліваюць анархічных метадаў, наш абавязак – маліцца за Яўгена, дапамагаць яму і ягоным родным дзеля таго, каб малады хлопец мог зразумець: «не будзь пераможаны злом, а перамагай зло дабром» (Рым., 12:21).

# Васьковіча перавялі ў магілёўскую турму №4



**Яўгена Васьковіча этапавалі ў крытую турму (Магілёўская турма №4). Атэстацыйная камісія прызначыла яму пакаранне ў выглядзе 3 гадоў адбывання пакарання ў турме строгага рэжыму з 7 прысуджаных. Да гэтага Яўген неаднаразова змяшчаўся ў штрафны ізалятар (СІЗА) і пасля быў пераведзены ў памяшканне камернага тыпу.**

На тэрыторыі турмы № 4 знаходзіцца гэтак званая «крытка». У ёй утрымліваюцца асуджаныя, якія здзейснілі ў калоніі нейкія злачынствы альбо абвінавачаныя ў дэзарганізацыі рэжыму ў калоніях.

Раней Яўген Васьковіч адбываў пакаранне ў Магілёўскай папраўчай калоніі № 15. Там яго няраз змяшчалі ў штрафны ізалятар за парушэнне рэжыму. Ён адмаўляўся выконваць загады адміністрацыі турмы.

# Яўген Васьковіч зноў апынуўся ў карцары

**Сябар Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, палітвязень Яўген Васьковіч, якога перавялі ў крытую турму ў Магілёве, 28 кастрычніка сустрэўся са сваім адвакатам, якога ён сустрэў шырокай усмешкай. Пра гэта прэсавай службе БХД паведаміў Дзяніс Садоўскі.**

Яўген Васьковіч пачуваецца добра, «нават лепш чым у калоніі». Паводле яго словаў, у турме бывае даюць смачную ежу. Разам з тым палітвязень ужо двойчы апынаўся ў карцары, дзе знаходзіцца і зараз. Першы раз ён трапіў туды за тое, што адмовіўся «працаваць на фашыстоўскую ўладу», у другі раз –на дзесяць сутак за тое, што заснуў у карцары.

Яўген Васьковіч таксама распавёў пра ўсе выпадкі свайго знаходжання ў карцары ў калоніі. Спачатку яго туды накіравалі на дзесяць сутак за адмову аддаць Біблію, у наступны раз – таксама на дзесяць сутак – за адмову маршыраваць пад дажджом. Тады ж яго пазбавілі права на ўсялякія спатканні. Надалей яго саджалі на двое, трое, чацвёра і пяцёра сутак. У выніку 12 кастрычніка над палітвязнем у калоніі адбыўся суд, які, за парушэнні рэжыму, прысудзіў яго паводле арт. 415 да пераводу з узмоцненага на строгі рэжым.

Палітвязень перадаваў усім прывітанні, асабліва Паўлу Севярынцу, Віталю Рымашэўскаму, Дзянісу Садоўскаму і Таісіі Кабанчук, а таксама сваёй матулі і бабулі. Ён сказаў ім, каб трымаліся. Таксама Яўген Васьковіч адзначыў, што атрымаў ад Паўла Севярынца чатыры лісты за нумарам 3 і 4.

# Хрысціянскія Дэмакраты Усходняй Еўропы патрабуюць вызвалення палітвязняў у Беларусі




**21-23 кастрычніка ў Кішынёве адбылася штогадовая канферэнцыя Асацыяцыі Хрысціянскіх Дэмакратаў Усходняй Еўропы (АХДВЕ), прысвечаная тэматыцы «Хрысціянска-дэмакратычныя каштоўнасці ў кантэксце новай дэмакратыі ў краінах постсавецкай прасторы».**

У канферэнцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі, Хрысціянскага Дэмакратычнага Руху Грузіі, Хрысціянска-Дэмакратычнай Народнай Партыі Малдовы, Хрысціянска-Дэмакратычнага Саюза Арменіі, Хрысціянска-Дэмакратычнага Саюза Латвіі, Хрысціянска-Дэмакратычнага Саюза Украіны, Хрысціянскага грамадскага руху «Дабрадатная Расія», а таксама прадстаўнікі еўрапейскіх хрысціянскіх дэмакратаў. Прымала дэлегатаў на мерапрыемстве ХДНП (Малдова). БХД на канферэнцыі прадстаўляў сустаршыня Георгі Дзмітрук.

Хрысціянскія дэмакраты прадставілі даклады адносна бягучай палітычнай сітуацыі ў кожнай краіне, у тым ліку аналіз дэмакратычных рэформаў, эканамічнага развіцця, ўзроўню сацыяльнай абароны. Асаблівая ўвага была ўдзелена адзінай для ўсяго рэгіёну праблеме – карупцыі, якая парушае нармальнае функцыянаванне дзяржаўных прававых інстытутаў, а таксама негатыўна ўплывае на эканамічную сітуацыю, роўна як і на фундаментальныя правы чалавека.

Дэлегаты форуму абмяняліся думкамі адносна магчымасцяў пашырэння ўплыву хрысціянскіх дэмакратаў на грамадскае меркаванне і працэсы прыняцця рашэнняў. У сувязі з гэтым быў распрацаваны агульны план працы на наступны год.

Прымаючы да ўвагі грамадска-палітычную сітуацыю ў Беларусі, справакаваную рэжымам Лукашэнкі, чальцы Асацыяцыі запатрабавалі вызвалення ўсіх палітычных зняволеных, спынення пераследу дэмакратычнай апазіцыі і змагароў за правы чалавека, а таксама афіцыйнай рэгістрацыі партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».

Прыводзім тэкст заявы:

«Асацыяцыя Хрысціянскіх Дэмакратаў Усходняй Еўропы выказвае глыбокую занепакоенасць сітуацыяй у сферы правоў чалавека і грамадзянскіх свабод, якая склалася ў Беларусі, асабліва, пасля прэзідэнцкіх выбараў 19 снежня 2010 г.

У краіне працягваюць парушацца правы на свабоду сходаў і СМІ. За апошнія месяцы ў Рэспубліцы Беларусь прыкметна пагоршылася сітуацыя ў тым, што тычыцца права на свабоду сумлення і веравызнання - у розных рэгіёнах краіны пратэстанцкім вернікам Пракуратурай былі вынесеныя афіцыйныя папярэджанні па арт. 193.1 Крымінальнага Кодэкса, якая прадугледжвае да 2-х гадоў пазбаўлення волі за дзейнасць ад імя незарэгістраванай рэлігійнай, грамадскай ці палітычнай арганізацыі.

У месцах зняволення працягваюць знаходзіцца апазіцыйныя лідары, у тым ліку: лідар партыі «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя» Павал Севярынец, кандыдаты ў прэзідэнты на мінулых выбарах Мікалай Статкевіч і Андрэй Саннікаў, віцэ-прэзідэнт Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека, старшыня праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі , лідар «Маладога Фронту» Зміцер Дашкевіч і іншыя грамадскія і палітычныя актывісты, прызнаныя беларускімі і міжнароднымі праваабарончымі арганізацыямі палітвязнямі.

Выказваем асаблівую заклапочанасць адносна таго, што па-за ўсякага грамадскага абмеркавання ў заканадаўства Беларусі быў унесены шэраг паправак, накіраваных на абмежаванне грамадзянскіх правоў і свабод і на развязванне яшчэ больш суровых рэпрэсій з боку сілавых структур.

Названыя факты выклікаюць занепакоенасць міжнароднай супольнасці адносна сітуацыі з захаваннем дэмакратычных стандартаў і правоў чалавека ў Беларусі.

Далучаючыся да меркавання міжнароднай супольнасці, мы заклікаем улады Рэспублікі Беларусь да захавання асноватворных правоў асобы і грамадзяніна, да вызвалення і наступнай рэабілітацыі лідараў апазіцыі і грамадзянскіх актывістаў».



# З кнігі Чарльза Колсана «Канфлікт царстваў»



***Чарльз Колсан займаў пост адмысловага дарадцы прэзідэнта ЗША Рычарда Ніксана. Падчас расследавання Уотергейцкай справы быў прызнаны вінаватым і правёў сем месяцаў у турме. У 1973 годзе ён стаў хрысціянінам, у 1976 годзе заснаваў служэнне «Турэмнае Брацтва». Колсан з'яўляецца аўтарам некалькіх кніг, якія сталі бэстсэлерамі, а таксама шматлікіх газетных і часопісных артыкулаў***

«Часамі я задаю сабе пытанне: калі б я ўжо быў хрысціянінам, працуючы ў Белым Доме, – ці ўдзельнічаў бы я ва Уотергейце? Інакш кажучы, ці валодаюць хрысціяне ўстойлівым імунітэтам да карупцыі?

Мяне так і падмывае адказаць на гэта пытанне катэгарычным «так», што было б відавочнай дурасцю дзеля самазаспакаення. Хоць і ўсведамляючы, што іх вера патрабуе высокамаральнага жыцця, хрысціяне аднак такія ж людзі, і часта, як і ўсё, не могуць выстаяць перад традыцыйнымі спакусамі. Хрысціяне ж, якія ўключаюцца ў палітычную дзейнасць, сутыкаюцца з яшчэ больш складанымі маральнымі праблемамі.

Якім чынам у хрысціяніне могуць ужывацца адданасць Богу і адданасць нацыянальным інтарэсам? Ці можа хрысціянін паспяхова пазбегнуць мудрагелістых пастак, прыгатаваных для таго, хто мае ўладу? Ці дапушчальна для хрысціяніна ісці на кампраміс, непазбежны ў палітычным жыцці?

Што рабіць, да прыкладу, з патрабаваннем сумленнасці ў палітыцы? Часам бяспека краіны патрабуе не толькі ўтойвання праўды, але і прамой хлусні. Скажам, у бытнасць маю супрацоўнікам Белага Дому на якія толькі хітрыкі мы не ішлі, каб не дапусціць уцечкі інфармацыі пра якія-небудзь перамовы! Генры Кісінджэр падхапіў цяжкую прастуду падчас свайго візіту ў Пакістан у 1971 годзе – ва ўсякім разе, так мы паведамілі ў прэсе. На самой жа справе ён паляцеў у Пекін для правядзення шэрагу канфідэнцыйных сустрэч напярэдадні гістарычнага візіту прэзідэнта Ніксана ў Кітай.

…Аналагічным чынам паступіў і прэзідэнт Рэйган у 1988 годзе. Калі рэпарцёры задавалі пытанні, ці сапраўды плануецца ўварванне ў Грэнаду, прадстаўнікі адміністрацыі Белага Дому ацанілі падобныя здагадкі як «абсурдныя» – хоць менавіта ў гэты момант войскі высаджваліся на ўзбярэжжа выспы. Аднак «адмовіцца пракаментаваць» пытанне прадстаўнікоў прэсы было б раўнасільна сцвярджальнаму адказу, што адразу б паставіла пад пагрозу жыццё вайскоўцаў.

У падобных выпадках, калі міжнародная сітуацыя рэзка абвастраецца, і на наймалую яе змену імгненна рэагуе ўсюдыісная прэса, такога роду зман – самая звычайная справа. Прэса нават успрымае яго як належнае: у інтэрв'ю «Newsweek» ў 1987 годзе знакаміты рэпарцёр «ABC» Тэд Копел прызнаў, што афіцыйныя асобы часам вымушаны даваць «унікліва адказы, а... часам і адкрыта хлусіць».

Свядомая хлусня, карумпаванасць улады, кампраміс з ідэалагічнымі апанентамі, рознага роду спакусы – усё гэта, відавочна, уласціва цяперашняй дзяржаўнай машыне. З улікам вышэйсказанага ці не лепш хрысціяніну сцерагчыся ўмешвацца ў настолькі брудную справу?

Адказам будзе катэгарычнае «не». Як пісаў Робэрт Л. Дабні, «любы хрысціянін... ці ён прадстаўнік заканадаўчай, выканаўчай улады ці звычайны выбарнік, павінен, у адпаведнасці са сваім сумленнем, прасветленым Словам Божым, выканаць палітычны абавязак. І паступаць яму належыць не столькі пад уплывам партыйных рашэнняў і ўказанняў кіраўніцтва, колькі паводле загаду абавязку».

Існуе прынамсі тры важкіх прычыны для ўдзелу хрысціянаў у дзяржаўна-палітычным жыцці. Па-першае, як грамадзяне пэўнай дзяржавы, хрысціяне маюць у адносінах да яе тыя ж абавязкі, як і ўсе іншыя грамадзяне: уваходзяць у лік прысяжных, плацяць падаткі, галасуюць, падтрымліваюць найбольш вартых, з іх гледзішча, кандыдатаў. Яны абавязаны з належнай павагай ставіцца да грамадзянскіх уладаў і маліцца за іх (напрацягу шматлікіх гадоў хрысціянскія фундаменталісты пазбягалі ўдзелу ў «грахоўным» палітычным жыцці, аж да адмовы ўдзельнічаць у галасаванні. Як бы ў цэлым ні ацэньваць дзейнасць «Маральнай большасці», апошняя саслужыла вялікую грамадскую

карысць, абудзіўшы ў гэтых людзях грамадзянскую актыўнасць).

Па-другое, з'яўляючыся паддзанымі Божага Валадарства, хрысціяне абавязаны ажыццяўляць у жыцці зямных царстваў Божыя патрабаванні праўды і справядлівасці. У гэтым ёсць грамадскае пакліканне хрысціян. Паводле слоў былога сенатара ад штата Мічыган прафесара Стэфана Монсма, удзел хрысціянаў у палітычным жыцці «служыць закладам зруху ўсёй палітычнай сістэмы... ад той, што абслуговае асабістыя інтарэсы найболей магутных людзей і груп да той, што нястомна клапоціцца пра дабро грамадства».

Па-трэцяе, на хрысціянах ляжыць абавязак замацаваць трансцэндэнтныя каштоўнасці ў грамадскіх адносінах. Закон неаддзельны ад маральнасці; шырока распаўсюджаная ідэя – маўляў «мараль нельга замацаваць заканадаўча» – не больш чым міф. Мараль штодня апранаецца ў форму законаў, зручных з пункту гледжання той ці іншай сістэмы каштоўнасцяў. І пытанне не ў тым, ці здолеем мы надаць маралі заканадаўчае афармленне, а ў тым, якую мараль мы збіраемся легітымізаваць.

Любы закон ёсць не што іншае, як збор правілаў, якія рэгламентуюць чалавечыя паводзіны; ён усталёўвае дапушчальнасць ці недапушчальнасць з гледзішча дзяржавы тых ці іншых чалавечых учынкаў. Большасць законаў і правілаў, такім чынам, маюць асновай маральныя крытэры. Забарона на забойства, указанне прышпіліць рамяні, патрабаванні тэхнікі бяспекі – усе яны прызначаны абараніць чалавечае жыццё і адлюстроўваюць пэўную маральную пазіцыю, якая складаецца з безумоўнага прызнання чалавечай годнасці і каштоўнасці чалавечага жыцця. І недастатковая эфектыўнасць закона ніякім чынам не адмяняе маралі: калі ў Амерыцы самы высокі ў свеце паказчык забойстваў на душу насельніцтва, тое гэта яшчэ не нагода адмяніць закон, які аб'яўляе забойства злачынствам....

Хрысціяне заклікаты выконваць свае грамадзянскія абавязкі з максімальнай аддачай. Але нават калі яны адчуваюць, што нічога не дамагліся, што ім не атрымалася замацаваць у грамадстве хрысціянскія каштоўнасці, то гэта яшчэ нічога не значыць. Крытэрам тут з'яўляецца не поспех, а вернасць Богу. Бо ў канчатковым выніку хрысціян не пакідае цвёрдая ўпэўненасць: усё ў руках Усемагутнага Бога – у тым ліку і рашэнне самых цяжкіх палітычных праблем.

Гэтая ўпэўненасць паходзіць з вучэння Хрыста. Ісус прыпадобніў Царства сціплай працы сейбіта: чалавек толькі кідае насенне ў зямлю і ўгнойвае глебу, усходзіць жа і расце насенне пад уздзеяннем сіл, непадуладных чалавеку.

Ісус меў на ўвазе, што хрысціяне закліканыя выконваць свой абавязак, прыкладаючы да гэтага максімальныя высілкі, але што прыход Царства – ва ўладзе Божай, а не чалавечай....

Крыніца: Чарльз Колсан. Канфлікт царстваў (Б.м.: Гендальф, 1996: 315-7, 333).

# Ствараецца віртуальны архіў камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі



**Сябры кампаніі «Пакаянне» аргкамітэту БХД звяртаюцца па дапамогу ў стварэнні віртуальнага архіву камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі. Зараз вядзецца праца па пошуку і сканаванні дакументаў і фатаздымкаў рэпрэсаваных беларусаў у ГУЛАГу, а таксама фатаграфаванні і апісанні прывезеных адтуль рэчаў, што захаваліся ў нашых суайчыннікаў. І безумоўна, вядзецца архіўны аўдыё- і відэазапіс успамінаў сведкаў камуністычных рэпрэсіяў і былых вязняў савецкіх лагероў.**

Канчатковай мэтай збірання архіву ёсць стварэнне віртуальнага музэю камуністычных рэпрэсіяў на Беларусі.

Калі вы маеце кантакты яшчэ жывых людзей, якія сядзелі ў ГУЛАГу, былі сасланыя ці маглі б іншым чынам асабіста засведчыць пра жахі камуністычных рэпрэсіяў, калі ў вас захаваліся дакументы і фатаздымкі вашых рэпрэсаваных бацькоў і дзядоў з ГУЛАГу і высылкі, а таксама рэчы, прывезеныя адтуль, ласкава просім паведаміць пра гэта на мэйл represii@gmail.com ці па тэлефонах 8-029-5712611(МТС), 8-029-3072713 (Вэлкам).



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газеты «Крыніца«, буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 1673435 (Марына)**.

Незалежнае інфармацыйнае выданьне
Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач«
Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.
Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ

Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 8 кастрычніка 2011г.
Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.
Распаўсюд бясплатны.